# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



№ 2

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

2 ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

1932 г. Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

У гэтым нумары мы друкуем пачатак цікавага „Драўлянага апавяданьня" пісьменьніка Я. Маўра. Шмат чаго ў апавяданьні будзе незразумелага, напрыклад,—што за драўляная каўбаса, драўляны нос? Нахлусіў Маўр, ня іначай. Але ўсё гэта праўда. У другой частцы апавяданьня будзе аб усім растлумачана. Аб усім, але **ня ўсім**, а толькі тым, хто сваечасова падпішацца на часопісь „Іскры Ільіча".

Яшчэ прачытаеце вы ў нумары цікавыя нарысы пра колгас, пра школу, артыкул пра каня і шмат іншых. Але мала прачытаць. Прачытайце і падумайце: а як працуе ваш колгас, вашы ўдарнікі, вашы школы, як даглядаюць у вас коняй. Што вы, дзеці, можаце зрабіць, каб дапамагчы старэйшым палепшыць работу па будаўніцтву новага жыцьця.

На вокладцы гэтага нумару надрукаваны малюнак—зімовы адпачынак дзяцей. А як вы праводзіце свой адпачынак? Якія цікавыя формы адпачынку ў вас, у вашай групе акцябрат, у вашай школе?

Пішэце нам, якія творы вам найбольш падабаюцца. Пра што вы хочаце яшчэ даведацца. Ці даюць вам карысьць тыя ці іншыя матар'ялы. Напішэце нам, як вы зрабілі маўзалей. Якія яшчэ дадаткі пажадана надрукаваць.

**Адрас рэдакцыі:
Менск, Комсамольская, 25**




**ЗЬМЕСТ**

*Верш Тараса ХАДКЕВІЧА*

# У школе

Калі ўзьнімаецца
Раньне зарой,
Мацнее на ветры
Калючы мароз,
Тады, абуджаючы
Гоманам рань,
Да школы імчыцца,
Бяжыць дзетвара.
Мацнее на ветры
Калючы мароз,
За вушы хапае,
Нібы незнарок.
За шчокі хапае,
За рукі, за нос
Бадзёры, вяртлявы
Калючы мароз.
Але вось і школа
Глядзіць ласкавей.
Знаёмы будынак
Прывабна заве...
Навокал сьнягі
Спавіваюць палі.
Высокія гурбы
Навокал ляглі.
У школе так слаўна:
Разьліта цяплынь,
Радамі расстаўлены
Парты, сталы.
Раскладзены сшыткі,
І купкамі кніг
Красуецца шафа
Ля белай сьцяны.
Прыходзіць настаўнік—
Тады цішынёй
Напоўніцца школьны
Прытульны пакой.
Гаворыць настаўнік
І словы яго
Распальваюць сэрцаў
Дзіцячых агонь.
Няхай за сьцяною
Злуецца мароз,
Хай сівер злуецца
Зімовай парой —
У школе так слаўна:
Разьліта цяплынь,
Радамі расстаўлены
Парты, сталы.
У школе за працай,
За чыткаю кніг
Мацнее, расьце
Малады будаўнік.






Малюнкі ДАВІДОВІЧА

Сёньня рана ўстаў Вова з ложка. Паглядзеў у вакно. Сонечна, марозна.

— Сёньня будзе весела на сьнежнай горцы,— думае Вова.

Ён скоранька апрануўся, умыўся і сеў сьнедаць. Маці падала гарачую страву. Прыглядаецца Вова. Даўно ўжо ён прыглядаецца да таго, што ад гарачае стравы альбо чаю ідзе пара.

— Чаму гэта з гарачага ідзе пара? — пытае Вова ў маткі, але тая не пачула яго слоў і занялася сваёю работаю.

Пасьнедаў Вова, клікнуў Жучку і выбег на двор. На дварэ яго абдало холадам і пачало шчыпаць твар, але весела Вову. Ён бяжыць, а санкі лёгка коцяцца за ім.

— Н-н... ноо, сьцеражыся, хлопчык! — пачуўся голас.

Пакуль Вова аглянуўся, дык над самым яго вухам пачулася:

— Храп, храп.—Гэта праехаў з возам дошчак барадаты дзядзька.

— Храп, храп, — чуецца яшчэ, і два цёплыя струмені пары выходзяць з конскіх ноздраў.

„Чаму гэта ідзе пара з конскіх ноздраў“, падумаў Вова, і сам пахукаў на свае азяблыя рукі. З яго вуснаў таксама ішла пара. Зьдзівіўся Вова: „Чаму гэта на марозе ідзе з вуснаў, з ноздраў пара?“

Доўга вазіўся на саначках Вова. Весела было разам з таварышамі і таварышкамі праводзіць час на сьнежнай гары. А зьверху павольна падалі белыя пухкія сьняжыначкі. Яны садзіліся на шапку Вовы, на футравы каўнер, на яго плечы. Яны зусім абляпілі яго, і Вова стаў сам белы, пухкі, як сьняжыначка.





Вова клікнуў Жучку і выбег на двор

Навазіўся ў вахвоту. Прышоў дахаты. За ім радасна прыбегла Жучка. Толькі яна цяпер ня чорная была, а белая ад сьнегу.

Ходзіць Вова па хаце не распрануўшыся і бачыць: паліто зноў робіцца чорным, чорным. Чуе Вова, як малюсенькія ручайкі вады пяцяклі за каўнер, і ўся вопратка стала нібы пасьля дажджу. Паглядзеў на Жучку, у Жучкі з шэрсьці, з мордачкі таксама цякла вада.

Дзівіцца Вова:

— Адкуль гэта ўзялася вада?

Назаўтра яшчэ больш зьдзівіўся Вова. Прышоў бацька з работы, а на каўняры яго кажуха белы, як пух сьнег. Але дзень быў сонечны, сьнег ня падаў.

— Чаму гэта, тата, на каўняры ў вас сьнег?— пытае Вова.

— Гэта іней, а ня сьнег,—адказаў бацька.

— А, татачка, паглядзеце, у вас на вусох лёд аднекуль узяўся.

— Ну, адкуль-жа ён узяўся? —спытаў бацька ў Вовы.

Вова задумаўся:

— А сапраўды, адкуль узяўся лёд у таты на вусох?

Вову цяжка было вырашыць усе гэтыя пытаньні.

---

Дзеці, ці ведаеце вы, ад чаго ўсё гэта бывае? Падумайце самі. Калі ня ведаеце, дык спытайцеся ў настаўніка.



*Верш дзяткора*

*КАЛАЧЫНСКАГА М.*

# ЗІМА











Дзень прыгожы навакола.
Як прыду сягоньня з школы,
Папішу і пачытаю
Ды у сьнежкі пагуляю.
Пагуляю разам з ветрам
На здаровым я паветры.
Каб вучыцца, не хварэць —
Трэба сілы многа мець.
Дык хутчэй, хутчэй за мною
Ўсе вясёлай грамадою.
Бяры лыжы, канькі, санкі
І наладзім пагулянку.




# ШКОЛА

*Нарыс А. Пальчэўскага*

Нова-Маскоўскую вуліцу ў Менску знайсьці ня так цяжка. Ад чыгуначнага маста, што перакінуты праз Савецкую вуліцу, трэба зьвярнуць улева — гэта і ёсьць Нова-Маскоўская вуліца.

Прайшоўшы трохі вуліцаю, на левым баку будзе 2-х павярховы дом. Тут знаходзіцца 31-я фабрычна-заводзкая беларуская сямігодка.

Загадчык прыветна сустракае нас. Ён ужо трэці год тут загадчыкам і школу сваю любіць, як маці сваіх дзяцей.

Шмат аб чым мае расказаць загадчык: пахваліцца дасягненьнямі, адзначыць недахопы. І цяпер т. Міхалковіч уводзіць нас у курс справы. Ён расказвае нам аб занятках у дзьве зьмены (бо не хапае памяшканьня), аб пераходзе на новыя формы выкладаньня, аб змаганьні за добра падрыхтаванага вучня для Тэхнікумаў, для Вышэйшых навучальных устаноў. Ён з вялікім задавальненьнем адзначае аб сваечасовай пастанове ЦК УсеКП(б) пра школу.

Праз хвіліну мы ўваходзім у 3-ю групу. Знаёмімся з яе жыцьцём.

45 вучняў правяраюць сваё разьвязваньне задач на дзесятковую дроб. Сёньня перад намі ўся група, прышлі сваечасова. А шмат прышлося змагацца групе разам з настаўніцай, каб зьнішчыць спазьненьні, прагулы.

Пазьніўся каторы на лекцыю, дык вывешвалі ў вітрыне яго прозьвішча. Яшчэ раз—другі спозьніцца або ня прыдзе зусім, дык вучні з брыгады за ўсенавуч ідуць даведацца аб прычыне, што затрымала іх таварыша дома. Бацьком гавораць, каб тыя адпускалі сваіх дзяцей у школу, каб не затрымлівалі дома.

Змаганьне за якасьць вучобы стаіць на першым месцы. Самакіраваньне ў 3-й групе ак-

тыўна дапамагае школе выканаць пастанову ЦК партыі аб падвышэньні якасьці вучобы. Брыгадная форма навучаньня дае добрыя вынікі. Вось вучаніца разьвязвае прыклады на дошцы. Яна няўпэўнена адказвае на запытаньні настаўніцы.

— Ці займалася ты ў апошнія часы задачкамі разам з брыгадаю?—цікавіцца настаўніца.

— Не,—адказвае вучаніца.— Гэта і відаць. Бо тыя, што займаліся ў брыгадзе, добра ведаюць.

Пры стварэньні брыгад па вучобе да адстаючых далучаюцца 2 або 3 вучні лепей пасьпяваючыя. Падвышэньне якасьці вучобы, ня толькі свае, асобнай, але і тых таварышоў, якія разам працуюць у брыгадзе, — вось асноўнае, за што змагаюцца колектыўна ў брыгадзе. Адказнасьць адзін за другога адчуваецца ва ўсіх. Няхай толькі каторы вучань не зьявіцца на заняткі брыгады, а пасьля дрэнна адказвае ў школе, дык яго адразу пачнуць дакараць:

— Мы ня будзем за цябе чырванець. Ты ўчора ня прышоў на заняткі брыгады, а сёньня блытаешся. Каб гэтага больш ня было.

Як абгаворвалі на агульным групавым сходзе пастанову ЦК УсеКП(б) аб школе, дык усе вучні, як адзін, сказалі, што трэба найлепей вучыцца, актыўна працаваць на грамадзкай працы, як гэта і падабае кожнаму піонэру. А вучні 3-й групы ўсе піонэры.

Адразу-ж на тым сходзе і пазьней пачалі запісвацца ва ўдарнікі. Цяпер іх налічваецца ў групе 20 чалавек. Найлепшыя з іх як па вучобе, так і па грамадзкай працы, гэта— **Каганаў Лёва, Русецкая Волька, Склонскі Кастусь.**

**Каганаў Лёва**—брыгадзір за якасьць працы. Ён-жа таксама і брыгадзір па выкананьні вучнямі дома ўсіх заданьняў. У сваёй працы ён дабіўся значнага палепшаньня, зьменшыліся спазьненьні ў групе.




*Малюнкі* САМАТАЯ.

*Ударная брыгада за работай*

**Русецкая Волька.** Яе галоўная праца—дапамагаць адстаючым. З гэтай працай яна спраўляецца. Вось вынікі: адзін вучань ня ўмеў пісаць. Яна прыклала ўсе стараньні і зараз гэты вучань добра навучыўся пісаць.

**Склонскі Кастусь**—старшыня клясному. Дабіўся чыстаты ў сваёй клясе і палепшаньня дысцыпліны. Група стала лепшаю ва ўсёй школе.

Гэтыя маленькія ўдарнікі не замыкаюцца толькі ў сваю ўласную работу, а дбаюць на карысьць сваіх таварышоў.

Брыгады спаборнічаюць з брыгадамі, а ўся група з 4-ю гр.

Па грамадзкай працы 3-я група падзелена на 7 брыгад. Кожная брыгада праводзіць пэўную работу. Вось брыгада **за якасьць працы** — дапамагае адстаючым, сочыць, каб іх таварышы добра наладжвалі працу брыгад, каб добра рыхтавалі заданьні.



*У школьнай сталоўцы*

Брыгада па **інтэрнацыянальным выхаваньні** дапамагае зборам сродкаў палітзьняволеным капіталістычных краін, дапамагае ў рабоце ячэйкі МОПР.

Тыя вучні, што знаходзяцца ў брыгадзе за **політэхнізм**, наглядаюць, каб ішлі добра заняткі па політэхнізацыі. Політэхнізацыя ў 3-й групе, як і ва ўсім 1-ым концэнтры, пастаўлена ня зусім добра. Свайго рабочага пакою малодшыя групы ня маюць.

Ёсьць яшчэ брыгады—**культмасавая, за здаровы быт, па сувязі з вытворчасьцю.**

Не адстала група і з падпіскаю на пазыку 3-ці рашаючы год. Усяго падпісаліся на 137 руб.

*
* *

3 гадзіны дню. Вучні 3-е і 4-е групы бягуць у сталоўку на абед. 80 вучняў могуць абедаць адразу, ня трацячы шмат часу. Цана абеду— 20 кап. — даступна кожнаму вучню, а бяднейшым кожны дзень выдаецца дарэмна да 90 абедаў. Усіх у сталоўцы абедае штодзённа звыш 400 вучняў. Наладжанасьць грамадзкага харчаваньня асабліва спрыяе справе барацьбы за якасьць вучобы.

# Ударныя брыгады

Верш І. КАГАНОЎСКАЙ

Малюнкі ВАСІЛЕЎСКАГА

I

Грае сонца
Праз ваконца,
Зайчыкамі скача.
І даўно ужо
За працай
Наш садок дзіцячы.
Тут брыгада,
Там брыгада,
Дружна ўсе працуюць.
У куточку Рэм і Надзя
З Ленаю майструюць.
У руках у іх
Цьвічкі,
Дошкі, пілкі.
Малаткі.
Робяць вешалкі з фанэры,
Каб павесіць ручнікі.

## Песенька брыгады

Ходзіць Гог,
Ходзіць Гог,
Брудны
З галавы да ног.
Нос у Гога—
Што за нос?!
Ці ня мохам
Ён аброс?

Гог наш сумны
Ды нэрвовы,
Гог наш, мусіць,
Нездаровы.
Ну, а мы бадзёрыя,
Чыстыя
Здаровыя.
Усе ў брыгадзе
Мы ударнай,
Мы ў брыгадзе
Санітарнай.
Мы пілуем,
Рэжам, стружам.



Робім полачкі
Для мыла
І для шчотачкі
Зубной.
Кожнаму—
Куточак свой.
Зробім працаю
Ударнай
Наш куточак
Санітарны.
І прывесім
Мы плякат
Для ўсіх
Нашых акцябрат.



**Бруд—хвароба,**
**Бруд—магіла**
**Чыстата—здароўе, сіла.**

II.

Сонца весела
Міргае,
З дзецьмі ў жмуркі
Яно грае.
Не да сонейка
Брыгадзе,—
Непарадак
У іх садзе.
Дурасьліўка Надзька
Раскідала цацкі.
З кубікаў заводзік
Разбурыў Валодзя.
Матар'ял пад полкай,
Крэслы ўсе бяз толку;
На падлозе Мішка,
Не ўпарадку кніжкі.

— Цацкі прыбіраем,
Крэслы расстаўляем,
Пыл усюды зьнімем,
Вокны ўсе адчынім,
Будзе чыста.
Будзем рады,
О, як чыста
Будзе ў садзе!
І спаборнічае з Наткай
Ліна, Рэм і Маша,
— Мы брыгада
Для парадку
Ў памяшканьні нашым.
І прывесім
Мы плякат
Для ўсіх нашых
Акцябрат:

**Матар'ял свой сьцеражы,**
**Усё на месца палажы.**

III.

Дзень бадзёры,
Дзень вясёлы
Для брыгады трэцьцяй.
Попел ў скрынкі,
Попел шэры
Сыплюць з групак
Дзеці!
— Для чаго
Вам попел
Гэты?
Для якой
Такое мэты?
— Павязем яго
З сабою
У колгас — на поле.
А за гэта
Будзе збожжа
Тады ўдвое болей.
І ў руках
Плакацік Стась
З Волькаю трымае:

**Калі попел**
**Мы зьбіраем,**
**Мы колгасу**
**Памагаем —**
**Памагаем ураджаю.**

IV.

У наступнай
У брыгадзе
Феня, Грыша
З Васільком.
— Мы — брыгада
Па дагляду
За жывым
Нашым кутком.
Кормім птушку,
Крошкай, мушкай,
Кормім рыбак
І жучкоў.
Мы ўдарна
Даглядаем
Свае кветкі
І зьвяркоў.

*(Канец чытайце ў наступным нумары)*



# ШТО НАМ ДАЎ КОЛГАС

Дрэнна жылося бедняком пасёлкаў Мрочкі, Сітнікі, Ліскі (Узьдзенскі раён) на сваіх палосках. З кожным днём прыходзілі да заняпаду іх гаспадаркі. Ад цямна да цямна працавалі, а карысьць была нік-



*Выезд на работу*

чэмная. Выхад з вузкапалосіцы, з беднасьці, з недахваткаў быў у колектыўнай працы.

І вось пачынаецца падрыхтоўка беднякоў і серадсякоў да організацыі колгасаў. Праходзіць некаторы час, і 58 бядняцка - серадняцкіх гаспадарак організуюць колгас. Назву даюць яму „Будаўнік".

Цяжка прыходзілася ў першыя дні колгасу. Сямейка з 300 едакоў — гэта ня проста сялянская сям'я. Кавалак зямлі ў 665 га (гэктараў) — гэта не серадняцкі надзел. 188 работнікам трэба даць работу, паказаць сваё месца, дзе кожны будзе працаваць. А тут яшчэ кулакі пачалі розныя чуткі пускаць, запалохваць. Але не памагалі кулацкія пагрозы, хлусьня. Тых хто верыць у сьветлую будучыню, хто аддана будуе новае жыцьцё—не запалохаеш. „Будаўнік" упарта змагаецца за новае жыцьцё і з посьпехам выбіваецца на лепшую дарогу.

Цяпер колгас спэцыялізаваны. Ёсьць новы, адзін з лепшых на Беларусі, сьвінарнік на 104 месцы, а ў ім 102 штукі сьвіней стаіць. Да вясны стада сьвіней павялічыцца да 200 штук. 5 чалавек даглядаюць сьвіное стада. Усе яны працуюць на зьдзельнай аплаце. Ад лепшага догляду павялічваецца вага сьвіньні, а гэта павялічвае працадні ў сьвінарак.

Колгас „Будаўнік" організаваў малочную фэрму. Гэта дае яму вялікую дапамогу. Да 1 студзеня пастаўлена 60 дойных кароў, гадуецца 21 штука маладняка. У доглядзе кароў, коняй абязьлічка зьнішчана. Але усё-ж ёсьць яшчэ і такія



Мал

колгасьнікі, што не шануюць каня, а гэтага не павінна быць, бо конь яшчэ доўга будзе адыгрываць вялізарную ролю ў нашых колгасах. Зьнішчаць коняй яшчэ рана.

## Лета корміць зіму

Добра працавалі ўлетку, увосень колгасьнікі. Яны ведалі, што чым ахватней і больш будуць працаваць, тым больш аплаціцца іх працадзень. Яны ведалі, што на зіму патрэбен будзе корм каровам, сьвіньням.

Вось прыклады іх работы:

Пры ўборцы 225 га сенажаці колгас паказаў прыклады бальшавіцкай барацьбы за кармавую базу. Брыгада з 45 касцоў, на чале з **Рудамінскім Алесям**, ад цямна да цямна працавала на сенажаці. Першымі ў пракосе ішлі **Пратасэвіч Ясь, Пратасэвіч Алесь, Цітко Янка**. Не адставаў ад іх і 60-цігадовы



*Малацьба ў колгасе*



*Здаюць хлеб дзяржаве*

дзед **Луцэвіч**. Кашулі станавіліся салёнымі ад поту ў тых, хто адставаў, але мускулы рук напружваліся мацней, бо ганьба быць выкінутым з пракосу.

— Ігнат, дай дарогу, ногі падрэжу,—крычаць ззаду.

— Як, я ўдарнік і табе буду дарогу даваць? — такія словы можна было чуць на сенажаці кожны дзень.

Норма на кожнага касца была 0,33 га. Але соцпаборніцтва і ўдарніцтва давяло норму выкананьня да 0,42 га.

Не адставалі і жаночыя брыгады. Сьледам за касцамі ішла ўборка сена. Адзін гэктар убіралі 4 жанчыны, замест 5-ці, вызначаных па пляну.

Так-жа ўдарна ўзяліся колгасьнікі і за жніво. Так, напрыклад, жыта было ўбрана за 8 дзён. Але надышла самая цяжкая і гарачая пара—ўборка 42 га бульбы. Стварылі 4 брыгады. На ўборку паслалі ўсіх

# ШТО НАМ ДАЎ КОЛГАС

Дрэнна жылося беднякам пасёлкаў Мрочкі, Сітнікі, Ліскі (Узьдзенскі раён) на сваіх палосках. З кожным днём прыходзілі да заняпаду іх гаспадаркі. Ад цямна да цямна працавалі, а карысьць была нік-



*Выезд на работу*

чэмная. Выхад з вузкапалосіцы, з беднасьці, з недахваткаў быў у колектыўнай працы.

І вось пачынаецца падрыхтоўка беднякоў і серадпякоў да організацыі колгасаў. Праходзіць некаторы час, і 58 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак організуюць колгас. Назву даюць яму „Будаўнік“.

Цяжка прыходзілася ў першыя дні колгасу. Сямейка з 300 едакоў — гэта ня проста сялянская сям'я. Кавалак зямлі ў 665 га (гэктараў) — гэта не серадняцкі надзел. 188 работнікам трэба даць работу, паказаць сваё месца, дзе кожны будзе працаваць. А тут яшчэ кулакі пачалі розныя чуткі пускаць, запалохваць. Але не памагалі кулацкія пагрозы, хлусьня. Тых хто верыць у сьветлую будучыню, хто аддана будуе новае жыцьцё—не запалохаеш. „Будаўнік“ упарта змагаецца за новае жыцьцё і з посьпехам выбіваецца на лепшую дарогу.

Цяпер колгас спэцыялізаваны. Ёсьць новы, адзін з лепшых на Беларусі, сьвінарнік на 104 месцы, а ў ім 102 штукі сьвіней стаіць. Да вясны стада сьвіней павялічыцца да 200 штук. 5 чалавек даглядаюць сьвіное стада. Усе яны працуюць на зьдзельнай аплаце. Ад лепшага догляду павялічваецца вага сьвіньні, а гэта павялічвае працадні ў сьвінарак.

Колгас „Будаўнік“ організаваў малочную фэрму. Гэта дае яму вялікую дапамогу. Да 1 студзеня пастаўлена 60 дойных кароў, гадуецца 21 штука маладняка. У доглядзе кароў, коняй абязьлічка зьнішчана. Але усё-ж ёсьць яшчэ і такія колгасьнікі, што не шануюць каня, а гэтага не павінна быць, бо конь яшчэ доўга будзе адыгрываць вялізарную ролю ў нашых колгасах. Зьнішчаць коняй яшчэ рана.



*Малацьба ў колгасе*

### Лета корміць зіму

Добра працавалі ўлетку, увосень колгасьнікі. Яны ведалі, што чым ахватней і больш будуць працаваць, тым больш аплаціцца іх працадзень. Яны ведалі, што на зіму патрэбен будзе корм каровам, сьвіньням.

Вось прыклады іх работы:

Пры ўборцы 225 га сенажаці колгас паказаў прыклады бальшавіцкай барацьбы за кармавую базу. Брыгада з 45 касцоў, на чале з Рудамінскім Алесям, ад цямна да цямна працавала на сенажаці. Першымі ў пракосе ішлі Пратасэвіч Ясь, Пратасэвіч Алесь, Цітко Янка. Не адставаў ад іх і 60-цігадовы



*Здаюць хлеб дзяржаве*

дзед Луцэвіч. Кашулі станавіліся салёнымі ад поту ў тых, хто адставаў, але мускулы рук напружваліся мацней, бо ганьба быць выкінутым з пракосу.

— Ігнат, дай дарогу, ногі падрэжу,—крычаць ззаду.

— Як, я ўдарнік і табе буду дарогу даваць? — такія словы можна было чуць на сенажаці кожны дзень.

Норма на кожнага касца была 0,33 га. Але соцспаборніцтва і ўдарніцтва давяло норму выкананьня да 0,42 га.

Не адставалі і жаночыя брыгады. Сьледам за касцамі ішла ўборка сена. Адзін гэктар убіралі 4 жанчыны, замест 5-ці, вызначаных па пляну.

Так-ж ударна ўзяліся колгасьнікі і за жніво. Так, напрыклад, жыта было ўбрана за 8 дзён. Але надышла самая цяжкая і гарачая пара—ўборка 42 га бульбы. Стварылі 4 брыгады. На ўборку паслалі ўсіх

працаздольных. Ня гледзячы на кепскае надвор'е, бульбу выкапалі ў час.

Колгас без спазьненьня выканаў плян асеньняй сяўбы. Засеяна 122 га жыта, зазяблена 100 га.

У час малацьбы ацэнка працы была вызначана ад колькасьці намалочанага збожжа.

## Хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае

Як падводзілі вынікі гадавой работы ў колгасе „Будаўнік", дык усе з нецярплівасьцю чакалі, колькі будзе прыпадаць дабра і грошай на працадзень.

Хутка абвясьцілі: 2,9 кілё збожжа, 8 кілё бульбы, 2,5 кілё грубых кармоў і 37 кап. чыстымі грашыма за адзін працадзень — гэтулькі атрымліваюць нашы колгасьнікі пры разьмеркаваньні даходаў.

Колгасьнік **Карачун Фёдар** з 3-ма працаздольнымі членамі сям'і меў 725 працадзён. Ён атрымлівае збожжавых 15 цэнтнэраў, крупяных — 6,6 цэнтн. бабовых—1 цэнтн., бульбы—60 цэнтн., грубых кармоў — 15 цэнтн., грашыма—268 руб.

Былы бядняк, **Ляневіч Юлісь**, удваіх з жонкай выпрацавалі 334 працадні. Яны атрымліваюць збожжавых 7 цэнтн., крупяных — 3 цэнтн., бабовых — 0,5 цэнтн., бульбы—30 цэнтн., грубых кармоў — 7 цэнтн., а грашыма — 154 руб. На сваёй уласнай гаспадарцы Ляневіч ніколі гэтага ня меў.

## Дзяржаве здалі своечасова

Колгас „Будаўнік" заместа 116 цэнтн., вызначаных па пляну, здаў па загатоўках 123 цэнтн. збожжа. Створаны насенныя і кармавыя фонды.

У падарунак 2-й раённай партконфэрэнцыі колгасьнікі чырвоным абозам здалі лішкі свайго збожжа дзяржаве. Гэтым самым яшчэ раз даказалі сваю аданасьць бальшавіцкай партыі.

## У чым сакрэт перамогі

Чаму-ж у колгасе „Будаўнік", ня гледзячы на дрэнную зямлю, малую ўраджайнасьць гэтага году ўсё-ж такі вышла на працадзень больш, чым у іншых колгасах раёну? Чым тлумачыцца вялікая даходнасьць гаспадаркі, выкананьне і перавыкананьне пляну загатовак?

Рэалізацыя 6 умоў т. Сталіна, правільная арганізацыя працы на аснове зьдзельшчыны, разгорнутае соцспаборніцтва і ўдарніцтва — вось чаму перамог колгас „Будаўнік", вось чаму ён мае такія вялікія дасягненьні.

*(Паводле артыкулу Войнава з газэты „Зьвязда").*

# ШАНУЙ І ДАГЛЯДАЙ КАНЯ

Да рэволюцыі ў старой царскай Расіі ня было трактароў. Бедны селянін гнуўся на сваёй вузенькай палосцы з худым конікам. Пан прымушаў сялян працаваць на сябе і яму трактар ня быў патрэбны.

А зараз мы за адзін толькі 1931 год зрабілі на сваіх заводах звыш сарака тысяч трактароў. У апошнім годзе пяцігодкі ўвесь Савецкі Саюз будзе змагацца за тое, каб зрабіць 82 тысячы трактароў.

У гэтым годзе нам трэба значна павялічыць плошчу пасеву. Ніводнага кавалка зямлі не пакінуць пуставаць. Да вясны трэба рыхтавацца загадзя.

Шмат сталёвых коняй выйдзе вясною на колгасныя палі.

Але гэтых трактароў яшчэ ня хопіць, каб урабіць усе палі Савецкага Саюзу. Конь яшчэ зьяўляецца таварышам трактара.

А клясавы вораг знарок агітуе зараз, што конь ужо не патрэбен, бо ў нас ёсьць даволі трактароў. Клясавы вораг добра ведае, што калі мы зьнішчым коняй, дык бяз іх ня здолеем урабіць усё поле, ня выканаем вялікага пляну сяўбы. Народны Камісар Земляробства СССР тав. Якаўлеў казаў: **„Хто зараз агітуе за тое, каб зьнішчыць каня, той—наш вораг“.**



Коні павінны быць добра дагледжаны, як належыць падрыхтаванымі да веснавой работы, не павінна быць ніводнага хворага каня. У гэтай рабоце вялікі ўдзел могуць узяць і дзеці. Трэба ўсім змагацца за добры догляд коняй, за гадоўлю маладняка. Дзеці павінны стаць шэфамі жарабят.

# ДРАЎЛЯНАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

Я. МАУР.

Тав. Елкін устаў з свайго драўлянага ложку з драўляным матрацам і драўлянай падушкай. Па драўлянай падлозе падышоў да драўлянай сьцяны і з драўлянага кручка зьняў сваю драўляную вопратку. Насунуўшы драўляныя пантофлі, пашоў на кухню. З драўлянай паліцы зьняў прымус і распаліў яго драўляным сьпіртам.

Пакуль на драўляным услончыку гатавалася драўляная гарбата, Елкін з драўлянае шафы выняў селядзец, пачысьціў яго і заліў драўляным алеям і драўляным воцатам. Тады толькі з драўлянага вядра набраў ён вады і памыўся драўляным мылам. Потым з драўлянага мяшэчка выняў драўляную каўбасу, а з драўлянай скрыначкі, пакрытай драўлянай фарбай, узяў драўляны цукар. Усеўшыся на драўляным крэсьле, за драўляным сталом, ён пачаў сьнедаць.

Рыпнулі драўляныя дзьверы і паштальён падаў драўляную газэту. Тав. Елкін быў выходны, яму ня трэба было ісьці на сваю драўляную фабрыку, дзе ён вырабляў драўляную мэблю. Ен павольна чытаў сваю драўляную газэту, выняў з драўлянае скрыначкі драўляную папяросу і запаліў драўлянай запалкай.

Пасьнедаўшы, вышаў з драўлянай хаты. Па завулку з драўляным плотам і драўлянымі будынкамі вышаў на галоўную вуліцу з драўляным брукам. На рагу нядаўна згарэў драўляны дом і замест яго будаваўся новы з драўлянай цэглы. Валяліся драўляныя бярвеньні, драўляныя дошкі, уздымаліся драўляныя рыштаваньні. Драўляныя грузавікі падвозілі драўляныя аркушы толю на дах.

Раптам насустрач ідзе таварыш Асінюк, прыяцель Елкіна.



*На экране паплылі драўляныя караблі*

Асінюк заўсёды быў франтам. Вось і цяпер ён ідзе, задраўшы свой драўляны нос і памахваючы сваёй драўлянай палачкай. Драўляныя падэшвы яго чаравікаў мякка тупаюць па драўлянай вуліцы, паблісквають драўляны гальштук і драўляныя панчохі, а драўляны капялюш зухавата ссунуты на бок. Здалёк ідзе ад яго пах драўлянай парфумы. Ён спыніўся ля драўлянага кіоску і пачаў разглядаць драўляныя часопісі і драўляныя кнігі.

— Што купляеш?—спытаўся Елкін.

— Ды нічога, іду ў аптэку. Пасьлязаўтра-ж трэба ісьці на лесазагатоўкі, дык трэба купіць лякарстваў на ўсякі выпадак. Хадзем разам.

— Во які далікатны,—усьміхнуўся Елкін, але пашоў з ім у аптэку.

У аптэцы Асінюк купіў драўлянага плястыру, драўлянага ёдаформу, драўлянага шпігінару. У дадатак узяў яшчэ бутэльку драўлянага ляку, запячатанага драўлянай пячаткай. Па драўляных пілавінях, што былі пасыпаны на падлозе, вышлі яны на драўляны ганак.

— Пойдзем у кіно,—прапанаваў Асінюк.

Елкін згадзіўся. Кіно было багата абсталявана, нават шкло было драўлянае. У драўлянай



*Конь вырваўся з драўляных аглабель*

касе купілі драўляныя білеты за драўляныя грошы і ўвайшлі ў залю. Драўляныя шпалеры зіхацелі яскравымі драўлянымі фарбамі. Чуліся гукі драўляных скрыпак і драўлянага раялю. На драўляных падстаўках ляжалі драўляныя ноты. Кантрабасіст пацірау свой драўляны смык драўлянай каніфоляй.

Нарэшце, мэханік з драўлянай будкі пусьціў сваю драўляную кіно-стужку. На экране паплылі драўляныя караблі, рыбакі на беразе канапацілі драўляныя лодкі драўлянай смалой. Потым зьявіліся цэлыя горы драўляных шпалаў, драўляных дошак, драўляныя мяхі з драўлянымі шавецкімі цьвікамі і драўлянымі капыламі, драўляныя скрынкі з драўлянымі цац-

камі, драўлянымі лыжкамі і драўлянымі міскамі, драўляныя ночвы і шмат іншых драўляных вырабаў, якія згрузілі на драўляны карабель.

Праз дзень Елкін і Асінюк накіраваліся ў лес. Елкін узяў з сабою драўляны клумак перавязаны драўлянай вяроўкай, а Асінюк дык нават драўляны чамадан. Яны дагаварыліся з адным дзядзькам у драўляных лапцях і той павёз іх на сваім драўляным возе. Драўляныя колы пішчалі, бо ня было драўлянай каламазі. У колгасах гулі драўляныт малатарні, вось праехаў драўляны комбайн. Раптам пачуўся выбух, конь вырваўся з драўляных аглабель: гэта недзе драўляным порахам узарвалі камень. Даносіўся пах драўлянага фармаліну, якім пратручвалі насеньне.

Нездарма Асінюк браў з сабою драўляныя лякарствы. Ён хутка намуліў сабе рукі драўляным тапарышчам ды драўлянай ручкай пілы. Драўляны плястыр і драўляны ёдаформ вельмі спатрэбіліся.

---

Такое апавяданьне можна было-б працягваць без канца, і ўвесь час мы натыкаліся-б на рэчы, зробленыя з дрэва. Папробуйце толькі ўявіць сабе, што было-б, калі-б раптам зьніклі ўсе „драўляныя" рэчы. Мы так прызвычаіліся да іх, што нават забываемся, што ўсё гэта дае лес. А пра некаторыя рэчы, мы зусім ня ведаем, што яны „драўляныя". У наступным нумары мы гэта растлумачым.

*(Працяг апавяданьня чытайце ў № 3)*

## КАЗЬЛЯНЯ

**Урывак з кнігі М. Брун „13 нашых", у якой апісваецца жыцьцё і праца яўрэйскай дзіцячай комуны ў Крыму**

У канцы нашага двара, каля варот, стаіць маленькая хатка. У ёй тры пакойчыкі і маленькі калідор. У гэтых пакойчыках мы разьмясьцілі ўсю сваю гаспадарку.

У адным—авечкі, у другім—козы, а ў трэцім — птушкі. У птушніку мы зрабілі гнёзды з каменьняў і саломы, каб куры несьліся ў іх.

Мы зрабілі і седала з жэрдак. І нашым курам спадабалася іх памяшканьне. Яны несьліся толькі ў сваіх гнёздах.

Кожную раніцу трое нашых дзяцей ішлі на работу ў „Гас-



падарку". (Так мы разважалі нашу хатку).

Аднойчы за козамі даглядаў Нёма. Ён прыбег у хату і закрычаў на ўсё горла:

— Дзеці! Сюды, я знайшоў казінае яйцо!

На крык прыбеглі ўсе дзеці, і ўбачылі ў руках Нёмы звычайнае курынае яйцо.

— У чым справа?—зьдзівіліся мы.

— Бачыце гэта яйцо!—кажа Нёма.—Я знайшоў яго ў хатцы коз. Значыцца, яго зьнесла каза.

Нам спадабаўся жарт Нёмы і мы сказалі:

— Ну, што-ж, падложым яго пад курыцу і з яго вылупіцца казьляня.

Нёма ўзяў карандаш і напісаў на яйцы:

„Казьлінае яйцо — знайшоў Нёма Іткін".

І ён палажыў яго ў кошык, дзе ляжалі яйцы для падкладкі.

Праз тыдзень мы пасадзілі шэрую курыцу на яйца. Нёма прынёс вядомае „казінае яйцо" і сказаў:

— Палажэце гэта яйцо, і з яго вылупіцца казьляня з рагамі.

Прайшло тры тыдні. З яец вылупіліся шэранькія і жоўценькія кураняты, а з „казінага яйца" вылупілася беленькае кураня. Гэта быў прыгожанькі пеўнік, і мы празвалі яго „казьляня".

Казьляня" скора расло і праз нейкі час стала вялікім пеўнем з прыгожым грэбенем і бародкай. Мы вельмі любілі яго. Як толькі ўбачым яго, бывала, — пачынаем крычаць:

— Казьляня! Казьляня!

А певень ганарыста падымаў прыгожую галаву і на ўвесь двор адказаў нам:

**КУ-КА-РЭ-КУ!**



# ЯК ХТО ЗІМУЕ





Прышла зіма. Насталі халады. Вецер-сівер гуляе па асьнежаных палёх, сьпявае свае песьні. Часамі мяцеліца ўсходзіцца і насыпае гурбы сьнегу, засьцілае белаю коўдраю палеткі, абсыпае будовы.

Чалавеку зіма ня страшна. Чалавек адзеты, абуты, у хаце цёпла. А як зьверу і іншым дзікім жывёлам?

Многія зьвяры прывыкаюць да холаду, але ня ўсе. Некаторыя з іх рыхтуюцца да зімы загадзя. Як-жа зімуюць зьвяры?



Шмат якія зьвяры хаваюцца ад марозу пад сьнегам. Сьнег — найлепшая коўдра. Сьнег не прапускае холаду. Напрыклад: збожжа пад сьнегам не баіцца марозу. Калі-б ня было сьнегу, яно б вымерзла.

Вось зайчык. Ён хоць і кепскі майстар, а ўсё-ж збудаваў сабе хату. Выбраў зручнае, зацішнае месца пад зялёнай елачкай. Выкапаў у сьнезе ямку і хаваецца ў ёй ад холаду. Выходзіць наверх, калі захочацца есьці, і трэба пашукаць сабе стравы.



Лісічка таксама сабе норку прыгатавала. А ў норку шмат лісьця нанасіла. Цёпла і мякка.

Мядзьведзь зрабіў сабе бярлог, лёг у ім і сьпіць спакойна. Так і есьці ня хочацца.

Вожык зашыўся ў сухое лісьце і заснуў на ўсю зіму.

Крот глыбока залез у зямлю і таксама заснуў да вясны.



Жабы зарыліся ў мох, пакарчанелі там і так ляжаць нярухома. Прыдзе вясна, прыгрэе сонца, аджывуць і жабы.

Мошкі, казюлькі розныя таксама запаўзаюць у зацішнае месца, замярзаюць там, але толькі да вясны.

Бяда толькі шэраму воўку. Ён ня можа так зімаваць, як другія зьвяры і дзікія жывёлы. Ён заўсёды галодны, заўсёды клапоціцца аб ядзе. Таму і зімою цагаецца па лясох, па палёх ды сьпявае свае воўчыя песьні. Часамі падкрадаецца да хлява, каб сьцягнуць авечку ці парася. Але рэдка калі пашанцуе: сабакі пачуюць, накінуцца на яго. А там, глядзіш, гаспадар прачнуўся. Будзе ваўку па баку.





# За культурны

Сцэнка для жывой газэты.

*ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:*

Алесь, Васіль — *старэйшыя дзеці*

Пятрусь, Манька — *малодшыя дзеці*

Бабка. Кіраўнік.

Адкрываецца заслона. Пакой. Позны вечар. Алесь і Васіль сядзяць за сталом, займаюцца. Бабка ладзіць вячэру. На лаўках ці на ложках сьпяць Пятрусь і Манька, але гледачом павінна здавацца, што пасьцелі пустыя.

**Алесь** (*раптам стукае па кніжцы*). Васіль, трымай, трымай яго.

**Васіль** (*адрываецца ад сшытка*). Каго?

**Алесь.** Таракана! Вунь ён, вунь ён, у рукаў табе пабег.

**Васіль** (*выбягае на сярэдзіну хаты, трасе рукавом, скача*).

**Бабка.** Ты чаго, крыкун?

**Басіль.** Ой, бабка, таракан! Ой, па жываце бегае!

(*Неспадзявана з пасьцелі скочваецца Пятрусь і бесьперапынку чыхае*).

**Пятрусь.** Ой, памажэце, зусім закусалі. У носе тараканы гнёзды пазьвівалі (*Чхае. Алесь цягне з носа Петрыка таракана*).

**Бабка.**

Сам ня пан, і сын не
панoў,
А баішся тараканоў.
Тараканы чорнай і жоўтай
масьці
Прыносяць усялякаму
дому шчасьце.

(*У гэты час з другой пасьцелі саскоквае ўскалмачаная Манька, руплiва чухаецца, перакідае посьцілкі, скідае клапоў, топча іх нагамі. Алесь і Васіль кідаюцца ёй памагаць*).

**Манька.**

Клапы зусім мяне заелі,
Як на патэльні, круцішся
ў пасьцелі.

**Бабка.**

Якая-ж хата без клапоў?
Садзіся вячэраць. Булён
гатоў!
Клапы здаўных, з клапамі
і спалі,
А вы вельмі далікатнымі
сталі.

(*Уся сям'я сáдзіцца за стол. Раптам Васіль выцягвае з міскі таракана*).

**Васіль.**

І тут тараканы!
Тараканы ў супе, тараканы ў
кнізе,
На кнігах,—усюды тараканы!

**Бабка.** Тараканоў выжыць плёвая справа.

**Усе дзеці.** Як? Як?

**Бабка.** А вось так. Колькі нас тут жыве, гэтулькі пар тараканоў трэба злавіць. А потым іх у лапаць, да лапця абору прывязаць ды ціханька ў лапці вывезьці іх цераз дарогу, а самому скарэй уцячы ды сьлед ад лапця замесьці. Усе тара-

# быт

каны, якія ў нас ёсьцека, самі за тым сьледам сыдуць, ніводнага не застанецца. Самы лепшы спосаб.

**Алесь.** А клапы?

**Бабка.** Для клапоў другі спосаб: злавіць пару самых тлустых, у скрыначку пасадзіць, ды пры зручным выпадку папу ў кішэню спусьціць. Будзе поп ад хаты адыходзіць, а ты і прыгаварвай: „Куды папы— туды і клапы, куды папы—туды і клапы". Усе да званьня за папом сыдуць і сьледу іх не застанецца. Гэта стары, найлепшы спосаб.

**Васіль.** Спосаб просты.

**Алесь.** Прасьцейшага ня бывае.

**Васіль.** Паганяцца варта.

**Алесь.** Усіх пазьнішчаем. (*Дастае з-пад лавы лапаць. Прывязвае да лапця доўгую вяроўку, спрабуе цягнуць яго да дзьвярэй*).

Ну вось, лапаць гатоў. Лаўлю тараканоў.

**Васіль.** А я—клапоў.

(*Хлопцы бегаюць, ловяць клапоў і тараканоў, саджаюць іх у лапаць у скрыначку ад запалак, яны разьбягаюцца, іх зноў ловяць і г. д. Бабка камандуе.*

*У час гэтай суматохі хлопцы выкрыкваюць розныя сказы і словы. Іх можна прыдумаць самім. Сцэнку трэба правесьці жыва і сьмешна*).

**Васіль.** А хто табе, бабка, сказаў пра гэты найлепшы спосаб?

**Бабка.** Мне маладуха Мар'я.

**Алесь.** А Мар'і?

**Бабка.** Дзед яе Марка.

**Пятрусь.** А Марку?

**Бабка.** Цётка Даміцэля.

**Васіль.** А Даміцэлі?

**Бабка.** Кума Анеля.

**Манька.** А Анелі?

**Бабка.** Бабка Тацянка.

**Алесь.** А Тацянцы?

**Бабка.** Прадзед Янка.

**Пятрусь.** А Янку?

**Бабка.** Прапрадзед Якаў.

(*Раптам крычыць*).

Чаго вы прычапіліся, разявакі?
Сказалі разумнейшыя за вас.
А калі пачалі работу—канчай ўраз.

(*Алесь ціханька вывозіць тараканаў у лапці за дзьверы. Васіль хавае скрыначку з клапамі ў кішэню*).

**Васіль.**

Заўтра папу дагаджу.
Клапоў яму ў кішэнь палажу.

**Алесь** (*уваходзіць з-за дзьвярэй*).

Ну цяпер адпачнем троха—
Тараканоў завезьлі за дарогу.

**Бабка.**

Лгаць ня будуць старыя людзі:
Цяпер клапоў і тараканоў ня будзе.

(*Заслона закрываецца і зараз-жа адкрываецца зноў. На сцэне Васіль і Алесь*).

**Васіль.**

Мінуў з той пары ўжо каторы час,
А клапы не пакідаюць нас.

**Алесь.**

Мусіць з лапцем—адзін падман.
Куды ні зірнеш—усюды таракан.

**Васіль.** Усё гэта бабчыны забабоны.

**Алесь.** А мы слухаліся яе. Нахлусіла нам бабка.

(*Уваходзіць кіраўнік, у яго у руках шлянка, пад пахай скрутак плякатаў*).

**Кіраўнік.**

Ступай, Васіль, ступай, Алесь і ты.

У раёне абвешчаны месячнік
чыстаты.
Прагонім з дамоў мінулага
перажытак—
Клапоў, тараканоў і усіх
паразытаў.

(*Перадае дзецям шклянкі і плякаты*).

**Васіль і Алесь** (*сьпяваюць*).
Не да твару нам усім
Жыць з клапамі ў брудзе.
Нам прыслаў Авіяхім
Для клапоў атруты.
Сьцеражыцеся, клапы,
Сьмерць вам надыходзіць.
Пазьнішчаем вас усіх,
Годзе ўжо вам шкодзіць,

(*Разгортвае плякат, на якім намаляваны вялізарны таракан і крыху меншы клоп. Пасярод вялікімі літарамі напісана: „Змагайцеся за культурны быт! Пазьнішчайце паразытаў у вашай кватэры!“*)

**Васіль.**
Дык давайце, ня трацячы часу,
Выступім за чыстату ўсе разам.

**Кіраўнік.**
Кожнаму з вас, хто сядзіць у
залі,
Шкоду ад забабонаў мы паказалі.
Каб ад паразытаў ня мець
мукі
Будзем ужываць сродкі, што
дае навука.

**Усе.**
Прэч-забабоны! Яны, як
паразыты
Перашкаджаюць нам
Змагацца з някультурным
бытам.

## ЦІКАВЫ МАЛЮНАК

Гэты малюнак цікавы вось чым. Вазьмеце яго і трымайце перад сабою. Выберце сабе адно якое-небудзь месца з малюнку, напрыклад—вока, лоб, нос, барада. Глядзеце ўважліва ў гэтае месца і лічэце пра сябе да сотні. Калі налічылі сто, глядзеце ўверх на **сьветлую** столь. Неўзабаве там, на столі, вы ўбачыце адбітак гэтага малюнку—чатырохкутная пляма, а ўсярэдзіне яе рысы твару.



# Сьвярдзёлак-

Выстругай круглую палачку. Адзін канец палачкі зрабі таўсьцейшым, як паказана на малюнку № 1. Вазьмі цьвічок, адсячы ў ім плешку і тупым канцом убі ў таўсьцейшы канец палачкі. Потым гостры канец цьвічка расплюшчы малатком у лапатачку і навастры яе.

Цяпер выстругай дзьве дошчачкі з дзіркамі па сярэдзіне (мал. 2). Гэтыя дзіркі павінны быць роўныя таўшчыні палачкі. Надзень на палачку абедзьве дошчачкі. На верхнім канцы палачкі прымацуй вяровачку, як паказана на малюнку 1. Канцы вяровачкі прыбі да канцоў верхняй дошчачкі. Сьвярдзёлак гатовы. Пакруці верхнюю дошчачку вакол палачкі. Прытрымліваючы леваю рукою ніжнюю дошчачку, стаў сьвярдзёлак на тое месца, дзе хочаш пракруціць дзірачку. Праваю рукою цісьні ўніз верхнюю дошчачку. Сьвярдзёлак будзе круціцца і пракручваць дзірачку. (Мал. № 3).



Мал. № 1



Мал. № 3



Мал. № 2

# Самадзелка

# ПАДУМАЙ

*Мал. дзяткора.*



**Паглядзеце на гэты малюнак адну хвіліну. Потым закрыйце старонку і ўспамінайце, якія рэчы намаляваны. Хто больш успомніць, у таго лепшая памяць.**



А дзе яшчэ два лыжнікі?

## МОНОГРАМА

У гэтых словах канчатак павінен быць аднолькавы.

З „К“ — жывёла.
З „Л“ — расьліна.
З „В“ — пасуда.
З „Г“ — вадкасьць.

## ЗАГАДКІ

Яна ў лесе, за ўзгоркам
Па арэшкі скок ды скок.
Называецца...
Гэты спрытненькі зьвярок.

Зьвер пушысты і хвастаты,
Не адну ён курку згрыз,
Або пеўня выкраў з хаты,
Хто-ж ён будзе?—Хітры...

Тоўсты, з моцнымі клыкамі,
Лас за мёдам даглядзець.
„Міхасём“ завуць часамі,
А звычайна—дык...

### Адказы на загадкі з № 1

*1. Ленін.*

*2. Зверху малюнка: справа і зьлева.*



*3. Так трэба злажыць малюнак.*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.

10к

Цана асобн. нумару 18 кап.

# МАЛЮНКІ НАШЫХ ДЗЯТКОРАЎ




**Дзеці! Рэдакцыя просіць вас прысылаць толькі такія малюнкі, якія вы намалявалі самі. Малюнкі, перарысаваныя з фотографій ці другіх мастакоў—зьмяшчацца ня будуць.**

**Малюйце лепш за ўсё чорным чарнілам альбо чорным рысавальным карандашом.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 158. 5425 экз. Упаўнаваж. Галоўлітбелу № А—6.